

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№17 (181) ЛІСТАПАД 2014 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ВАЙНА НА ДАРОГАХ

**Без вайны за дзесяць гадоў у аўтакатастрофах колькасна зніклі два такія мястэчкі, як Шуміліна. Міністэрства ўнутраных справаў і Міністэрства аховы здароўя Беларусі паведамляюць: за апошнія дзесяць гадоў у дарожна- транспартных здарэннях загінула больш за 18 тысячаў чалавек, а звыш 70 тысячаў атрымалі траўмы.**

Як гэта ні трагічна, у нашай краіне гіне ўдвая больш людзей, чым у Еўрасаюзе, дзе сярэдняя колькасць загінулых складае 55 ахвяраў на 1 мільён насельніцтва, супраць 109 страчаных тут.

Прычым у РБ, наезд на пешахода зьяўляецца найбольш распаўсюджаным відам аўтаздарэнняў( 42%), трацiна з якіх прыпадае на восень.

Пагадзіцца з гэткім высокім узроўнем смяротнасці на беларускіх дарогах нельга. Але, што рабіць? Па-першае, праблема павінна гучаць, але не час ад часу, не ад кампаніі да кампаніі, а штодзённа. І найперш праз тэледэбаты, тэлешоу, тэлеапытанні. Па-другое, інфармацыя пра ДТЗ павінна быць даступнай і дакладнай. Адпавядаць сучаснасці ў 21-стагоддзі, а не такой выбарачнай і сціплай, якой паўстае з афіцыйных СМІ, якія ў савецкім мінулым. Дый турбаваць яна мусіць не толькі Дзяржаўтаінспекцыю па родзе іхняй дзейнасці, але найперш грамадскасць.

Так, нешта, безумоўна, робіцца. Робіцца гэтак, як рабілася пры саветах: пад прымусам зьверху, па прафесійным абавязку, а не праз дыялог з грамадзянскай супольнасцю, не па ініцыятыве знізу.

Без вайны за дзесяць гадоў у аўтаздарэннях колькасна зніклі два такія мястэчкі, як Шуміліна, але бальшыні насельніцтва і справы да гэтага няма. Яны пра гэта не думалі, не ведаюць і ведаць не жадаюць.

У мінулым годзе ДАІ Віцебскай вобласці, як паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі, дзеля выпраўлення нэгатыўнага становішча пачала "паляванне на пешаходаў", што парушалі правілы пераходу вуліц. У гэтай спецаперацыі былі задзейнічаны нават супрацоўнікі ў цывільным, якія адсочвалі парушальнікаў і перадавалі іх супрацоўнікам аўтаінспекцыі. Толькі за адзін дзень на Маскоўскім праспекце ў Віцебску з 6 да 9 гадзінаў раніцы было складзена 38 пратаколаў пра адміністрацыйнае правапарушэнне. Лічбы ўражваюць! Але ці паўплывалі яны на грамадскасць, на заканадаўцаў, на даішнікаў, на кіраўніцтва гораду… Адказ відавочны.

Дастаткова паназіраць за тым, наколькі дысцыплінавана паводзяць сябе аўтакіроўцы, што пад'язджаюць да нерэгуляванага пешаходнага пераходу, на якім мінакі маюць законную перавагу, але не маюць аб'ектыўнага абароны ў выглядзе светлафору. Думаецца, пешаходны пераход – гэта той адпраўны пункт, навёўшы парадак на якім, можна рухацца далей у справе дысцыплінавання кіроўцаў і пешаходаў.

Як гэта ні крыўдна, але за апошнія пару гадоў менавіта на пешаходных пераходах беларускіх гарадоў, ў тым ліку і ў Шуміліне загінула нямала дарослых і дзяцей. Таму дзеля аб'ектыўнасці трэба адзначыць, што наезды здзяйсняюць усё ж такі кіроўцы, і яны нясуць асноўную адказнасць за іх.

Некалькі гадоў таму мяне ўразіў сюжэт прадэманстраваны па тэлебачанні: у перапоўненым пешаходамі і аўтамабілямі Лондане кіроўцы імгненна спынялі свае машыны, як толькі чалавечая нага завісала над пешаходнымі палоскамі. Падумалася, няўжо беларусы не маглі б паводзіць сябе гэтак дысцыплінавана і адказна?

Думаю, што маглі і беларусы паводзіць сябе ніколькі не горш. Але справа ў адсутнасці тут прававой культуры, у адсутнасці павагі да чалавека наогул і чалавечага жыцця ў прыватнасці. Плюс цяжкая спадчына: захоп улады на Беларусі расейскімі бальшавікамі, грамадзянская вайна, сталінскія рэпрэсіі, Другая сусветная вайна – вось яны этапы выхавання існай тут абыякавасці. Аднойчы падзяліўшы людзей на сваіх і чужых, цяжка пагадзіцца з тым, што чалавек, які пераходзіць вуліцу пешкі, нічым не адрозніваецца ад таго, што сядзіць за рулём аўтамабіля. Асабліва тады, калі кошт аўтамабіля зашкальвае.

Аддаўшы нямала часу назіранню за паводзінамі пешаходаў і кіроўцаў перад пешаходным пераходам, можна зрабіць наступныя высновы: паводзіны гэтыя залежаць ад агульнай культуры, узроўню адказнасці, часу сутак, магчымай наяўнасці побач супрацоўніка ДАІ, месца размяшчэння пераходу і яшчэ шмат якіх фактараў…У цэнтры гораду пешаходы куды смялейшыя і часцей карыстаюцца сваімі правамі. Балазе там яны маюць колькасную перавагу, альбо не асабліва ў ёй саступаюць.

Як падалося, сярод вадзіцеляў найбольш дысцыпліваныя – кіроўцы гарадскіх маршрутак, таксісты. А вось уладальнікі дарагіх аўто, кіроўцы гарадскіх аўтобусаў, цяжкіх аўто спыняюцца перад пераходам без асаблівага энтузіязму.

Таксама існуюць праблемы з выкананнем правілаў дарожнага руху на пераходах, што паўсталі зусім нядаўна, і да якіх кіроўцы не прызвычаіліся.

Відавочна, што зменшыць колькасьць аўтатранспартных здарэнняў можна толькі праз вольнае дэмакратычнае выхаванне, у аснове якога ляжыць павага да чалавека і чалавечага жыцця як такога.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ДУХОЎНАСЦЬ

## БУДАЎНІЦТВА ХРАМА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**У гарадскім пасёлку Шуміліна па вуліцы Луначарскага насупраць будынка раённай аптэкі ідзе будаўніцтва новага храма свяціцеля Мікалая Цудатворца.**

З радаснымі пачуццямі ўспрынялі многія шумілінцы аб закладцы першага каменя ў падмурак будучай царквы ў цэнтры горпасёлка 18 траўня 2012 года. Бадай што, за два з паловай гады пакрысе вырас прыгожы будынак, на якім цяпер ужо вядуцца дахавыя работы. Цагляныя работы амаль скончаны, завершана будаўніцтва сцен, а з большага выкананы і бетонныя. На сённяшні дзень ідзе мантаж дахавых канструкцый пад купал. Храм узвысіўся ў вышыню прыкладна пяціпавярховага дому.

Паводле благачыннага Шумілінскай акругі пратаірэя Фёдара Пучынскага, званіца для ўсталявання малога купала амаль гатовая. Цяпер будаўнікі рупяцца над скляпеннямі храма, на чарзе – узвядзенне барабана пад вялікі купал. Да зімніх халадоў патрэбна абавязкова накрыць дах, а затым пачаць устаноўку акон і аддзелачныя работы ўнутры памяшкання.

Вядома, што храмы заўсёды будаваліся "талакой", на малыя ахвяраванні прыхаджан, дабрачынцаў, улад і ўсіх "Богалюбівых чадаў праваслаўнай царквы". Святары кажуць, што кожны ўдзел у будаўніцтве храма, нават наведзенне парадку на яго тэрыторыі, будуць мець ўзнагароджанне Божае ў асобных справах дабрачынца: здароўі, дабрабыце, ахове ў дарозе і іншых жыццёвых патрэбах.

Безумоўна, без дапамогі жыхароў як горада, так і раёна, людзей з міласэрнымі і чулымі сэрцамі, немагчыма было ажыццявіць задуманае, пабудаваць годны храм. І людзі адгукнуліся на гэтую просьбу. Працоўныя калектывы арганізацый, прыватных прадпрыемстваў, прадпрымальнікі, простыя грамадзяне раёна падчас будаўніцтва ахвяравалі грашовыя сродкі на будаўніцтва храма Свяціцеля Мікалая Цудатворцы. Усяго было сабрана 817 мільёнаў рублёў, якія былі выдаткаваны на набыццё будаўнічых матэрыялаў, правядзенне будаўнічых работ, частковую аплату праектна-каштарыснай дакументацыі. У мінулым годзе толькі ад ад сельгасарганізацый Шумілінскага раёна на будаўніцтва праваслаўнай царквы паступіла 80 мільёнаў рублёў. Такім чынам быў выкананы вялікі аб'ём работ – шумілінцы могуць ганарыцца, кожны з іх збіраў на высокі і прыгожы царкоўны будынак па цаглінцы – прынёс невялікі ўклад у агульную вялікую справу. Наш храм – гэта ёсць наша спадчына, якая застанецца дзецям і ўнукам на гэтай зямлі.

**Уладзімір Амбросаў**

ВЕКАПОМНАЕ

## КАБ ПОМНІЛІ СВАЁ МІНУЛАЕ

**У Мішневічах прайшла ўрачыстая цырымонія перапахавання астанкаў савецкіх салдат, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны.**

Вёска Мішневічы – гэта быў першы населены пункт, які з цяжкімі баямі занялі савецкія войскі 16 лістапада 71 адзін год таму. Дагэтуль кожны год 52-га асобны спецыяльны пошукавы батальён праводзіць актыўныя раскопкі ў месцах баёў на тэрыторы нашага раёна. Знойдзены астанкі дзясяткаў воінаў у Мішневіцкім, Сіроцінскім, Каўлякоўскім, Дабейскім сельсаветах. Варта нагадаць, што ўсяго на тэрыторыі Шумілiншчыны раёна пахавана 10,4 тыс.удзельнікаў і ахвяр Другой сусветнай вайны. На жаль, пераважная большасць імёнаў савецкіх салдат так і застаюцца невядомымі.

Вось і на гэты раз знайшлі вечны спакой астанкі дзевяці савецкіх вайскоўцаў. Яны былі знойдзены ў траўні 2014 года паблізу вёскі Запалянка. Толькі ні адпаведных рэчаў, ні дакументаў, якія б дапамаглі ўстанавіць імёны ваенаслужачых, не было знойдзена.

Жалобную цырымонію на вайсковых могілках праводзілі намеснік старшыні Шумілінскага райвыканкама Анатоль Зайцаў, ваенны камісар раёна Алег Чарняўскі, старшыня Мішневіцкага сельсавета Г. А. Зязюлька, старшыня раённай ветэранскай арганізацыі К. Ф. Палоўнікава.

Малебен ў памяць аб загінуўшых воінах правёў настаяцель Свята-Ануфрыеўскага храма ў Обалі іерэй Уладзімір Пучынскі. На мітынг сабраліся мясцовыя жыхары, школьнікі неслі гірлянду, а прадстаўнікі арганізацый і прадпрыемстваў раёна – кветкі і вянкі.

Пад гукі афіцыйнага гімна Рэспублікі Беларусь і залпы ваеннага салюту труны з астанкамі невядомых салдат апускаюцца ў зямлю. На брацкай магіле ўсталявалі чырвоны абеліск з зоркай. Мінула шмат гадоў – амаль цэлае стагоддзе пасля той вайны. Але хто зможа вызначыць, колькі яшчэ загінуўшых захоўвае шумілінская зямля?

**Алесь Прыбярэжны**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ТРЫ ЗВАНКІ НА ПРАМУЮ ЛІНІЮ

**На чарговую прамую лінію, якую праводзіў намеснік старшыні райвыканкама Алег Быкаў, звярнулася ўсяго пяцёра шумілінцаў. Трое жыхароў пазванілі з вёсак раёна, яшчэ дзве жанчыны прыйшлі на асабісты прыём.**

У Шумілінскім раёне стала традыцыйным не меней аднаго разу ў месяц праводзіць "прамыя лініі" са старшынёй райвыканкама Уладзімірам Куранным. Бо зваротам грамадзян у краіне надаецца значная ўвага вышэйшымі органамі афіцыйнай улады. Менавіта па загадах зверху ад "прэзыдэнцкай вертыкалі" працуюць кіраўнікі арганізацый і прадпрыемстваў. Ды і самі чыноўнікі на месцах лічаць правядзенне падобных ліній дзейсным сродкам вырашэння надзённых пытанняў паміж прадстаўнікамі мясцовай улады, розных службаў і насельніцтвам. Да таго ж такім чынам ладзіцца нібыта адкрыты для ўсіх дыялог паміж уладамі і народам.

Аднак па ўсяму відаць, што апошнім часам актуальнасць такіх "прамых ліній" пайшла на спад. Сумніўна, што гэта ёсць паказчык наладжанай работы службаў з насельніцтвам, хутчэй за ўсё, само насельніцтва страціла цікаўнасць да такіх метадаў работы чыноўнікаў.

Па характару тых пытанняў, з якімі людзі звяртаюцца на "прамую лінію" было бачна, што яны, як кажуць, вырашаюцца "за сем дзён". А пра набалелыя праблемы даўно ведаюць і мясцовыя улады, і насельніцтва, і больш вышэйшае кіраўніцтва – яны вырашаюцца месяцамі і гадамі, таму не мае сэнсу званіць кожны раз і турбаваць зацікаўленыя асобы. Усе ведаюць асноўную прычыну, па якой справы ідуць марудна – гэта недахоп бюджэтных сродкаў.

Першым выкарысталі магчымасць прамой размовы з намеснікам старшыні райвыканкама Алегам Быкавым жыхары дома № 15 з горпасёлка Обаль па вуліцы Першамайскай. Абальчанін ад імя жыхароў дома абураўся там, што падвалы залітыя каналізацыйнымі сцёкамі, а камунгасу да гэтай праблемы няма ніякай справы. Апроч таго, здараюцца пастаянныя перабоі з гарачым водазабеспячэннем. Алег Быкаў пераадрасаваў пытанне на рахунак шумілінскіх камунальнікаў і абяцаў жыхарам дома наладзіць водаадвядзенне сцёкаў з падвала праз два тыдні. Праблему з гарачай вадой у Обалі чыноўнікі ведаюць даўно, аднак па усяму відаць, што чакаць яе вырашэння давядзецца яшчэ доўгі час.

Гаспадары з вёскі Андрэева скардзіліся на кіраўніцтва ААТ "Лаўжанскае". Дарэчы, на гэта прадпрыемства ўжо каторы раз наракаюць усе, хто здаваў туды цялят. Як правіла, свае кроўныя грошы затым даводзіцца "выбіваць" з дапамогай вышэйшых інстанцый на працягу некалькіх месяцаў. Куды толькі не пісалі і не званілі, а воз і цяпер там. Галоўны бухгалтар "Лаўжанскае" апраўдвалася, маўляў, гаспадарка ўжо выплаціла здатчыкам за пастаўкі цялят у чэрвені, і у бліжэйшым будучым выплаціць за ліпеньскіх.

Яшчэ адзін званок тычыўся адвядзення вады з дваровых тэрыторый дамоў па вуліцы Юбілейнай (дом № 2) у Шуміліне. Алеіўгэтымвыпадкувыканаўчая ўлада пакуль што нічым не можа дапамагчы. Алег Быкаў праінфармаваў скаржнікаў аб тым, што патрэбна наладзіць сістэму ліўневай каналізацыі, каб пазбегнуць падтаплення дамоў. Аднак такі праект запланаваны толькі на будучы 2015 год.

На асабістым прыёме ў намесніка кіраўніка раёна пабывалі дзве жыхаркі Шуміліна. У адной гора – зусім спіўся дарослы сын, нідзе не працуе, выносіць з дому рэчы. Таму трэба дапамагчы адправіць хранічнага алкаголіка ў лячэбна-працоўны прафілакторый. Пытанне будзе разглядацца медыкамі і работнікамі міліцыі. У другой жанчыны ёсць праблемы з газіфікацыяй уласнага дома: яна не можа дагаварыцца з суседкай аб правядзені сістэмы. Грамадзянка атрымала кансультацыю аб парадку дзеянняў у аналагічнай сітуацыі.

Якбачнасазваротаўграмадзян, усе запыты не знайшлі вырашэння першапачаткова на месцы. Гэтая акалічнасць і вымусілазвярнуццаданамесніка старшыні райвыканкама.

**Алесь Шумскі**

ШЛЯХ У ЕЎРОПУ

# КОНКУРС ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛЬНІКАЎ Ў ВІЛЬНІ

**Адбыўся фінал ХІ Нацыянальнага конкурса школьных каманд "Што я ведаю пра Еўропу?", у якім прынялі ўдзел вучні з Башнёўскай сярэдняй школы.**

8 лістапада 2014 г. у самым цэнтры старажытнай Вільні, фактычна ў мурах яе Старога горада, прайшла фінальная гульня ХІ Нацыянальнага конкурса школьных каманд "Што я ведаю пра Еўропу?"

Удзельнікі фіналу папярэдне прайшлі трохэтапны інтэрнэт-адбор, які складаўся з аналітычных і даследчых заданняў, пошуку правільных адказаў на гістарычныя, эканамічныя, сацыялагічныя і палітычныя пытанні

У напружанай канкурэнтнай барацьбе месца ў фінале заваявалі наступныя каманды: "Беларускае кола" з Навагрудка, "Сакуны" з Бокшыцкай сярэдняй школы (в. Заполле Слуцкага раёна), "Еўра-М" і "Вандроўніцы" з Магілёва, "Вандроўнікі" з Башнёўскай сярэдняй школы (в. Башні Шумілінскага раёна).

У гэтым годзе адзначаўся 10-гадовы юбілей знаходжання ў Еўрапейскім Саюзе краін, якія далучыліся да гэтай ўнікальнай супольнасці ў 2004 годзе. Таму асноўная тэма сёлетняга конкурса гучала так: "Што мы ведаемпра10краінЕўрапейскага Саюза, якія далучыліся да ЕС у 2004 годзе?".

Мэтай адзінаццатага конкурса было дапамагчы беларускім школьнікам даведацца, што адбываецца за заходнімі і паўночнымі межамі Беларусі, каб лепей уяўляць рэаліі нашых блізкіх і далёкіх суседзяў. У гэтым годзе арганізатары не абыйшлі увагай і такую гадавіну, якая шырока адзначалася ва ўсей Еўропе – 100-годдзе з дня пачатку Першай Сусветнай вайны, тым болей што падзеі гэтай вайны сталіся важным этапам у гістарычным развіцці ўсіх тых дзесяці краін, якія ў 2004 годзе сталі сябрамі ЕС. І гэтыя тэма таксама знайшла сваё адлюстраванне ў конкурсных заданнях папярэдніх этапаў і фінала.

Значную дамамогу ў арганізацыі конкурсу аказалі партнеры: Пасольства Літоўскай рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Асацыяцыі па міжнародных пытаннях (Чэхія) і Міжнароднага кансорцыюма "ЕўраБеларусь". Арганізатары конкурса выказалі ім усім вялікую падзяку за дапамогу.

Прысутным было прадстаўлена журы фінальнай гульні, якое ў гэтым годзе складалася з вядомага беларускага палітыка і палітолага, намесніка старшыні ПАГА "Рух за Свабоду" Алеся Лагвінца, знанай спецыялісткі ў галіне грамадзянскай адукацыі, сябра праўлення Міжнароднага кансорцыюма "ЕўраБеларусь" Тацціяны Пашэвалавай і настаўніцы са шматгадовым стажам, чые каманды рэгулярна бяруць удзел у конкурсе "Што я ведаю пра Еўропу?" Галіны Сырaеджкінай.

Каманды прадстаўляліся самі і віталі ўсіх прысутных. Сярод удзельнікаў фінальнай стадыі конкурса аказаліся вельмі розныя калектывы. У Вільню прыехалі і "старажылы" спаборніцтваў - тытулаваная каманда з Навагрудка "Беларускае кола" (пераможцы конкурса 2010 і 2013 гадоў), і шматразовыя "срэбныя прызёры" - настойлівыя магілёўцы з "Еўра-М", і вельмі светлыя каманды дзяўчат "Вандроўніцы" з Магілёва і "Вандроўнікі" з вёскі Башні Шумілінскага раёну, і мэтанакіраваныя дзяўчаты і хлопцы з каманды "Сакуны" са Случчыны.

У выніку атрымалася сапраўднае захапляльнае інтэлектуальнае спаборніцтва, але ў выніку перамог досвед – моцная і дасведчаная каманда "Беларускае кола" упершыню ў гісторыі конкурса стала яго трохразовым пераможцам.

Нельга не адзначыць і тое, што падрыхтавалі свае каманды да гэтага свята ведаў і інтэлекту найлепшыя беларускія настаўнікі: Валянціна Быстрык з Навагрудка, Наталля Бартошык з Бокшыцкай СШ, што месціцца у в. Заполле, Марына Аляксеенка з Башнёў, Юрась Каласоўскі і Галіна Зяткіна з Магілёва. Арганізатары конкурса выказалі ім шчырую падзяку за высокі прафесіяналізм у настаўніцкай дзейнасці.

**Сяржук Горкі**

КРЫМІНАЛ

# ВІЦЯБЛЯНКІ АБАКРАЛІ ШУМІЛІНЦА

**У жыхара Шумілінскага раёна на вуліцы Ленінградскай у Віцебску дзве жанчыны выцягнулі грошы з кішэні курткі.**

Рабочы з Шумілінскага раёна 1985 года нараджэння пазваніў у міліцыю па спецлініі "102". Мужчына паведаміў, што ў палове другой гадзіны дня каля дома па вуліцы Ленінградскай ў Віцебску дзве жанчыны з кішэні яго курткі адкрыта выкралі 400 тысяч рублёў.

Па гарачых слядах міліцыянтамі АМАП па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрыманыя непрацуючыя - мясцовыя жыхаркі 1973 і 1996 нараджэння. Заведзена крымінальная справа па ч. 2 арт. 206 КК.

**Па зводках УУС**
**Сяржук Горкі**

ЗДАРЭННІ

# ГАРЭЛА ЛАЗНЯ

**Пажар лазні адбыўся у вёсцы Андрэева.**

У вёсцы Андрэева Мікалаеўскага сельсавета Шумілінскага раёна адбыўся пажар лазні. У выніку ўзгарання прыватнай лазні памерам 3х4 м, якая належыць грамадзянцы 1946 года нараджэння, пенсіянерцы, пашкоджаны дах, паталочнае перакрыцце, сцены. Прычына пажару высвятляецца.

**Па зводках МНС**
**Сяржук Горкі**

# НАЧНЫ ПАЖАР

**У аграгарадку Амбросавічы паблізу аздараўленчага летніка "Дружба" адбыўся пажар дачнага дома.**

22 лістапада ў тры гадзіны ночы загарэўся дачны дом, які размешчаны пабач з аздараўленчым летнікам "Дружба" у аграгарадку Амбросавічы. Гаспадар, які знаходзіўся ў памяшканні, ўратаваўся самастойна.

У дачным доме памерам 8 на 9 метраў агнём поўнасцю знішчаны дах, паталочнае перакрыццё, маёмасць, пашкоджаны сцены. У легкавым аўтамабілі, што знаходзіўся каля дома, пашкоджаны бампер, задняе шкло, лакафарбавае пакрыццё задняй дзверы.

Магчымая прычына пажару: неасцярожнае абыходжанне з агнём - пакінуты без нагляду камін.

**Алесь Шумскі**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# УЛАДКАВАННЕ ШУМІЛІНСКАГА РЫНКУ

**Каля гарадскога рынку пачаўся рамонт дарогі, ужо заасфальтавалі пад'езд і стаянку для машын, падфарбавалі вароты і дэкаратыўную агароджу.**

Яшчэдвагадытамустаршыня Шумілінскага райвыканкама Уладзімір Куранны абяцаў добраўпарадкаваць каля рынку хаця б стаянку для машын. Бо грунтовае пакрыццё не вытрымлівала ніякай крытыкі – ямы з лужынамі і ліпучая грязь, асабліва пасля дажджу даўно замінала наведвальнікам рынку і аўтааматарам, якія вымушаны былі там паркавацца. Аднак справа зрушылася з месца толькі сёлетняй восенню.

На самой тэрыторыі рынку новы асфальт не пралажылі. Мабыць скончыліся бюджэтныя сродкі. А старое пакрыццё паступова разбураецца. Рынак амаль пусты, засталося чатыры палаткі, рэдкія наведвальнікі аглядаюць тавар.

Усе гандлёвыя шапікі зачыненыі даўно не працуюць. Некалі яны размяшчаліся каля чыгуначнага вакзала, а затым кіраўніцтва раёна распарадзілася перанесці іх на рынак. Па ўсяму відаць, што ў гэтым малалюдным месцы прыватнім уладальнікам яны даходаў не прыносяць.

**Ян Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЭНКА ЎРАД ПАШТУРХАЎ, АЛЕ НАЎРАД ЦІ РАЗГОНІЦЬ

**Беларускі прэзідэнт зноў ставіць спектакль пра строгага справядлівага цара і баяраў-разгільдзяяў. На эканамічным нарадзе 11 лістапада ў Мінску Аляксандр Лукашэнка раздраконіў урад за стратэгічныя пралікі. Пры тым што стратэг ва ўладзе ў нас па вызначэнні адзін.**

Астатнія, незалежна ад пасад - толькі механічныя выканаўцы вярхоўнай волі, апрыёры вінаватыя ў правалах.

**Чыноўнікі - не такія ўжо «саўкі» і «кансервы»**

У прыватнасці, стратэгічным пралікам ўрада Лукашэнка назваў правал мадэрнізацыі ў дрэваапрацоўцы, лёгкай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.

Так, але гэты працэс ужо не першы год курыруе асабіста прэзідэнт: ездзіць па прадпрыемствах, шчодра раздае нагонка (што выліваецца і ў крымінальныя справы), піша драконаўскія ўказы (тыпу ўвядзення «прыгоннага права» ў дрэваапрацоўцы). Атрымліваецца, уся гэтая тытанічная актыўнасць першай асобы дзяржавы мае блізкі да нуля ККД?

Класічны прыклад беларускага вярхоўнага валюнтарызму: тры гады таму прэзідэнт прымусіў урад перапісаць прагноз на 2012 год, заклаўшы рост ВУП не паўтара працэнта, а 5,5%. Маўляў, аптымістычней трэба. Па выніках года ВУП, аднак, вырас роўна на 1,5%.

Натуральна, ніхто нічога не сабатаваць (паспрабуй толькі, кайданкі напагатове), проста немагчыма было скочыць вышэй за пояс (ды і навошта той ВУП дзеля ВУП?). І ва ўрадзе выдатна гэта разумелі першапачаткова. Дык хто тады стратэгічна сеў у лужыну?

Цяпер, праўда, Лукашэнка, крытыкуючы Саўмін за залежы на складах, заўважыў, што не прымушаў «гнаць аб'ёмы. Галоўнае - продажу і даходы ад гэтых продажаў ».

Фармальна правільна, але чаму беларускі тавар не прадаецца, хоць таўкачамі зрабілі ўжо нават сваіх дыпламатаў па ўсім свеце? Ды таму перш за ўсё, што падае канкурэнтаздольнасць, а яе ня падняць без рэформаў.

Дарэчы, нядаўняе даследаванне BISS у рамках праекта «Рефорум» паказала парадаксальныя рэчы. Аказваецца, беларускія чыноўнікі, насуперак клішаваныя іміджу саўкоў і застаблаў, у большасці сваёй падтрымліваюць неабходнасць рэформаў. І адчуваюць гэтую неабходнасць мацней, чым насельніцтва ў цэлым.

Так, на пытанне, ці патрэбныя ў Беларусі рэформы, роўна палова апытаных чыноўнікаў адказалі «так» і яшчэ 36% - «хутчэй так». Ды з такім настроем горы можна звярнуць! Але не тут-то было.

Урад, будзь яно самым што ні на ёсць прагрэсіўным, не можа пачаць пераўтварэнні без адмашкі з самай верхатуры беларускай персаналісцкай сістэмы. Але рэформы, нават цалкам эканамічныя, пагражаюць асновам гэтай сістэмы. Увогуле, замкнёнае кола.

**600 доляраў на нос - столь беларускай мадэлі?**

Зрэшты, у моцнага заўсёды вінаватыя слабы. Цяпер кіраўнік дзяржавы зноў асядлаў тэму Усебеларускага народнага сходу.

"Прашу не забываць, што 2015 завяршае бягучае пяцігоддзе. І нам з вамі на бліжэйшым Усебеларускім сходзе трэба будзе даць справаздачу перад народам за пяць гадоў, адкрыта сказаць грамадству, што абяцалі і што зрабілі », - нагадаў Лукашэнка.

Пры тым што тут ужыта сціплае «мы», нязменным галоўным героем перыядычнага сакральнага дзейства з раздачай абяцанняў на наступную пяцігодку з'яўляецца самі ведаеце хто. Чыноўнікі толькі ўпісваюць у даклад прыгожыя лічбы, якія павінны выгадна абмалёўваць дзеючага кіраўніка краіны перад чарговымі выбарамі.

І ўжо зараз можна сказаць, што прыгожая лічба ў тысячу доляраў сярэдняга заробку, абяцаная на 2015 год, будзе з трэскам праваленая.

Гэта выдатна разумее і сам прэзідэнт. Пасля фінансавага калапсу 2011 года ён усё ж больш прыслухоўваецца да перасцярог Нацбанка і Саўміна, што наганяць зарплаты імем рэвалюцыі нельга, інакш зноў усё накрыецца медным тазам.

Пасля абвалу-2011 сярэдні заробак з грахом папалам давялі да 600 доляраў у эквіваленце. Гэта значыць, па сутнасці, толькі дзе-як папоўнілі народу страты ад ранейшай авантурнай гульні кіруючых вярхоў з фінансамі.

Хоць папоўнілі вельмі ўмоўна: цэннік-то - нават у пераліку на даляры - за гэтыя гады ірвануў ого-го! У апошнія месяцы ў рэальным вылічэнні паказчык сярэдняй зарплаты стаў зноў здзімаць.

Увогуле, падобна, што «кожнаму-па-шэсцьсот» - гэта стольдлябеларускайэканомікі ў яе цяперашнім стане. Ды і то пры ўмове, што Масква не паменшыць падсілкоўванне. А гэта не факт.

Крым ткі гукнулася расійскай эканоміцы, і чым далей, тым ёй будзе больш балюча. Растрацію ладную долю ЗВР, тамтэйшыя ўлады вымушаныя адпусціць у свабоднае плаванне і так ужо страціў адносна даляра каля 40% з пачатку года расійскі рубель.

Імклівая ж яго дэвальвацыя азначае, што нясуць страты нашы экспарцёры, арыентаваныя на рынак усходняй суседкі. Фактычна гэта форс-мажор.

Але Лукашэнка на нарадзе 11 лістапада з самага пачатку раззброіў падначаленых: «Адразу заўважу, што апраўдання, спасылкі на неспрыяльныя знешнія фактары як «капрызы надвор'я »не прымаюцца. Яны заўсёды былі і будуць. І, дарэчы, мы планавалі сваю працу ў гэтым годзе, улічваючы гэтыя неспрыяльныя ўмовы. Нам трэба працаваць у любых умовах і дасягаць вынікаў, аператыўна рэагаваць на змены кан'юнктуры і прымаць рашэнні неадкладна ».

Ну ўжо чаго-чаго, а анэксіі Крыма, войны на Данбасе і заходніх санкцый супраць Пуціна беларускі Саўмін напэўна не планаваў. Ды хіба запярэчыш!....

*(скарочана)*

**Аляксандр Класкоўскі**

**Чытаць цалкам: naviny.by**

ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

# У СМАЛЕНСК НА ШОПІНГ

**Тут нават беларускія тавары таньнейшыя, чым у самой Беларусі. Грамадзяне Беларусі выкарыстоўваюць дэвальвацыю расейскага рубля, каб набыць таньнейшыя тавары, у тым ліку прадукты харчаваньня, у памежных рэгіёнах Расеі. Многія беларусы езьдзяць «затаварвацца» ў Расею цягам дзясятка апошніх гадоў.**

Жыхар вёскі Зарэчча Смалявіцкага раёну Ігар Прашко — кіроўца мікрааўтобуса «Мэрсэдэс» — езьдзіць сам і возіць пасажыраў на рынкі Расеі і Ўкраіны. Стаж перавозчыка адлічвае ад 2002 году, калі яшчэ працаваў кіроўцам на птушкафабрыцы ў Смалявічах. Апошнія тры гады займаецца гэтым як індывідуальны прадпрымальнік.

Галоўны кірунак цяпер — Расея, асабліва ён выгадны ва ўмовах падзеньня расейскага рубля, кажа Ігар, зьбіраючыся ў дарогу:

«Вельмі добра, вельмі выгадна езьдзіць стала. Нават па машыны: вунь сусед мой прыгнаў „сітраэна" — такая маленькая прыгожанькая машынка малалітражная. 2005 году выпуску, і яму абышлася ў 3,5 тысячы — з Масквы прыгнаў. А ў Смаленск мы катаемся толькі па прадукты».

**Карэспандэнтка:** «А прадукты выгадна стала набываць?»

**Ігар:** «Ну вядома, выгадна. Каб не было выгадна, то людзі б і ня езьдзілі. Бо я тут коштаў ня ведаю — я ў Расеі ўсё, што трэба, набываю. Ну вось, да прыкладу, на памідоры памятаю цэньнік: прыгожыя памідоркі, чырвоныя, сакавітыя — ці то Грузія, ці Абхазія — 60 рублёў расейскіх за кілаграм. На нашы грошы, паводле грубага падліку — 15–17 тысяч. А ў нас памідоры 25 тысяч будуць каштаваць і значна горшыя. Вядома, выгадней, калі цэньнік застаўся той самы, а даляр падскочыў. Ён быў 33 рублі 2–3 месяцы назад, а цяпер 47.

Што да паліва — вельмі выгадна там запраўляць. У нас літар каштуе амаль 50 рублёў на іхнія грошы, а ў іх — 33 рублі. Я, да прыкладу, паеду ў Смаленск, да мяжы даяжджаю, каб толькі хапіла, і там, у Расеі, запраўляю поўны бак, а ён у мяне вялікі — 140 літраў, зэканомлю 48 даляраў толькі на паліве. Бо паліва ў нас дарагое: 1 даляр і 8 цэнтаў, а там — даляр 47 рублёў, а прадаюць за 33 — розьніца вялікая і адчувальная. Калі ў Маскву езджу, то эканомлю на паліве даляраў 70.

Тавары лёгкай прамысловасьці — адзеньне, абутак, пабытовыя тавары Ігар па-ранейшаму езьдзіць набываць ва ўкраінскі горад Хмяльніцкі. Па пабытовую тэхніку і аўтамабілі возіць пакупнікоў у Маскву, па прадукты харчаваньня — у Смаленск. Кожную сераду а 3-й гадзіне ночы ён сядае за руль свайго мікрааўтобуса, каб а палове на сёмую раніцы быць на аптовым рынку ў Смаленску. Пяць-сем пасажырскіх месцаў займаюць жанчыны рознага веку, а астатняя палова мікрааўтобуса вызваленая ад сядзеньняў — пазьней яна запоўніцца таварамі.

Праз колькі хвілінаў пасьля адпраўленьня пасажыркі з Барысава і Жодзіна пачынаюць драмаць, а кіроўца, каб ня спаць, на ўсю моц уключае «Ласкавы май» і хуценька лускае семкі. Хуткасьць — 120 кілямэтраў за гадзіну, як і прапаноўваюць дарожныя знакі. Гэтак прамільгвае Дуброўна, умоўная мяжа з Расейскай Фэдэрацыяй, Катынь...




Оптавы рынак у Смаленску ад цямна запоўнены аўтамабілямі, і спрэс — зь беларускімі нумарамі. Яшчэ да пачатку працы выстройваецца чарга, спачатку — да старога «Масквіча». Мясцовы валютчык, не хаваючыся, выконвае функцыі банку і пераводзіць у расейскія рублі любыя грошы — даляры, эўра і беларускія рублі. За адзін расейскі рубель бярэ 237 беларускіх. …

Неўзабаве гэтая ж чарга перасоўваецца ў мэталёвы ангар. У пераважнай большасьці тут сярэдняга веку жанчыны. Малады няголены расеец, які бярэ грошы і выпісвае квіткі на тавары паводле заранёў падрыхтаванага сьпісу, пры гэтым нязлосна жартуе і кпіць, перапытваючы ў жанчын, чаму прыехалі бяз бульбы. За гэты час разьвідняе, і рынак паўстае ва ўсёй красе.

Агулам кажучы, ён вельмі нагадвае беларускія рынкі зь «ліхіх 90-х»: зарослы быльнягом, са старымі іржавымі ангарамі, з мэталёвай бочкай пасярэдзіне, у якой працаўнікі ў зашмальцаваных вопратцы спальваюць друз і сьмецьце. Неўзабаве мікрааўтобус пачынае да столі запаўняецца пакункамі рыбы, кансэрваў, мяса птушкі, печыва, цукерак, сьпіртовых напояў, кавы, гарбаты ды іншых прадуктаў.

Пакупніцы кажуць — кошты ўдвая, а то і ўтрая ніжэйшыя, чым дома. Да прыкладу, кілаграм вэнджанай рыбы, якая ў Беларусі ня лепшай якасьці і каштуе каля ста тысяч рублёў, у Смаленску на беларускія грошы каштуе трыццаць. Цяперашні крызіс расейскага рубля на цэнах тут амаль не адбіўся, і набываць прадукты праз абмен даляраў на расейскі рубель усё больш выгадна.

Яшчэ адзін кіроўца — ён жа пакупнік Міхаіл, які прывёз групу жанчын з Жодзіна, у чаканьні чаргі дзеліцца сваімі ўражаньнямі ад паездак у Расею:

«Тут часта бываюць зьніжкі — раз на квартал самае малое.

*(працяг на стар. №4)*

ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

*(пачатак на стар. №3)*

Да прыкладу, цяпер — золата, пазьней, бліжэй да Новага году, будзе апаратура, тэлевізары на зьніжках.

Я ўжо не кажу пра нашы „Гарызонты" — іх і ў шпіталях ня хочуць усталёўваць. А добрыя маркі тэлевізараў — Самсунгі, LG 49 цаляў — на 200–250 даляраў таньнейшыя на зьніжках. Ну, ёсьць сэнс зьезьдзіць і за дарогу заплаціць? І яшчэ грошы застанууца.

Пральныя машыны — усю пабытовую тэхніку адсюль возяць, асабліва бліжэй да сьвятаў. Мне ўжо тэлефануюць, перапытваюць, ці пачалося ўжо. І гэтак тут заўсёды — тут жа бізнэс па-іншаму пабудаваны.

Гэта ж у нас толькі „зьніжкі" ў „Спортмайстры" — кажуць 30%, а яна даўно ўжо ў сабекошт загнаная. Калі ў нас красоўкі, да прыкладу, са зьніжкай 100 даляраў каштуюць, то тут максымум 50 — вось гэта зьніжка.

Ну, выгадна стала езьдзіць. Нават той жа рыбы — ня кожны чалавек у нас можа адразу цэлы пласт набыць. Акрамя таго, тут усё сьвежае. У нас у „Эўраопце" — бачылі ж пэўна — трыццаць разоў перамарожанае, а тут яна сьвежая.

Тыя ж самыя куры віцебскія нашы, беларускія — тут таньнейшыя, чым у „Эўраопце".

Зьвярніце ўвагу, наколькі нашы тавары танныя тут. Патлумачыць гэта можна толькі тым, што за бесцань аддаюць, абы валюту атрымаць. Бо наш беларускі цукар дома 10 тысяч каштуе, а тут 8 — наш беларускі цукар. Як так можна — я ня ведаю».

*(скарочана)*

**Галіна Абакунчык**
**http://www.svaboda.org**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ВСЕ В САД ИЛИ ДАВАЙТЕ СПРАВКУ…

**Мне вот интересно: в правительстве что, доплачивают за каждую неадекватную инициативу по особому тарифу?**

Накануне в детском саду предупредили: кто пропускает сад больше одного дня – несите справки.

*— А то что будет?* — не сдержалась я, хотя меня это и не особо касалось — мой ребенок ходит в сад от звонка до звонка и без права на болезни.

*— У нас сейчас с этим строго: нельзя пропускать в год больше 30 дней,* — будто извиняясь, объяснила воспитательница.

*— А то что будет?* — снова повторила я вопрос.

*— Не знаю,* — еще больше смутилась воспитательница.

*— Просто хотелось бы знать, какие санкции предусмотрены в отношении «прогульщиков»,* — пояснила я свою настойчивость. *— Их выгонят из сада за непосещаемость? Или, может, лишат компота? Или отправят в специальную исправительную группу расчищать лопатками дорожки от снега?*

*— Я не знаю, что они там еще придумают,* — грустно улыбнулась воспитательница.*—Покаотнастребуют только справки. Вы же сами понимаете, что лично нам, воспитателям, легче, когда в группе не 30 человек, а 15. Если у кого-то из родителей отпуск или там бабушка в гости приехала – я, например, не вижу ничего плохого от того, что ребенок дома посидит. Особенно сейчас, когда все сопливые ходят.*

И вот тут подумалось: а для кого же была придумана эта человеколюбивая инициатива о контроле малолетних прогульщиков?

Для воспитателей – это уж точно нет.

Или, может, для родителей? Кажется, озвучивая предложение по борьбе с прогульщиками, приводился довод, что таким образом мы разгрузим группы и уменьшим очередь желающих в сад.

Тут же вспомнилось, как мы «сдавали» туда своего ребенка. В группе мы числились 32-ми по списку. Воспитатель на всех была одна. На наш вопрос: как же 62-летняя женщина справится с таким количеством малолетних карапузов, которые не умеют сами ни есть, ни одеваться, а некоторые и на горшок ходить, заведующая успокоила, что все сразу не придут: кто-то еще дома посидит, кто-то болеть будет, кто-то по полдня ходить...

Интересно, приняли бы нас в сад сейчас, зная, что все 30 придут обязательно? И как, по мнению чиновников, должны уменьшиться очереди, если теперь даже те, кто мог бы подержать ребенка дома, будет водить его в группу от восхода до заката? Создадут новые группы для тех, кто в списке «сверх нормы»? Странный, я вам скажу, способ экономии получается!

Ах да, экономическую выгоду собирались получить, сделав платными группы для детей до 3-х лет и после 6-ти. Мол, раз отдала, кукушка, ребенка в сад в 2 года – либо плати, либо иди работай. А то, видите ли, хотят и пособие от государства получать и ребенка бесплатно за его счет в саду кормить!

Ну, во-первых, совсем и не бесплатно – в месяц сад обходится примерно в 450 тысяч, а пособие урезается вдвое. А во-вторых, чиновники, наверное, в силу своего возраста подзабыли, чем занимается ребенок в яслях? Нет, не танцует и не пляшет, проедая казенную кашу. Он болеет. Неделю в сад – две недели дома – адаптация называется. Многие оттого-то ребенка и отдают в ясли, чтобы он, переболев, иммунитет выработал и дал потом возможность спокойно на работу выходить, не оформляя больничные через каждые 2 дня.

Вот интересно, кто-нибудь подсчитал «экономический эффект» от оплаты больничных работающим мамам? Что-то подсказывает, что это обойдется государству намного дороже, чем выплата детских пособий и содержание яслей.

В общем, как ни крути, ни денег в казну, ни заботы о населении не проглядывается. Зато сколько инициативного рвения со стороны народных благодетелей! Такое чувство, что чиновникам за каждую неадекватную инициативу доплачивают по особому тарифу.

Вот собрать бы их всех – инициативных – в отдельную группу и отправить расчищать дорожки от снега. Думается, экономический эффект будет намного ощутимее.

**Анастасия Зеленкова**
**www.gazetaby.com**

ПРАЦОЎНЫЯ РЭСУРСЫ

# ПАЛЯВАННЕ НА ЛІШНЯГА ЧАЛАВЕКА

**«Кадры вырашаюць усё!» — любіў паўтараць бацька савецкай каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. Але кадры, дадам ад сябе, здольныя і заваліць любую даручаную справу. Сотні тысяч беларусаў, якія актыўна працуюць па-за дасягальнасцю падатковых органаў, сведчаць пра тое, што жыццё паступова сыходзіць з дзяржаўнай сістэмы.**

Падставай для напісання гэтай «Азбукі паліталогіі» стаў савецкі мульцік «Казлянё, якое лічыла да дзесяці». Пра што ён? Пра ролю ўліку працоўных рэсурсаў у падтрыманні сацыяльнай стабільнасці. Гэтую ролю сёння многія не да канца разумеюць і недаацэньваюць. Адсюль паўстае жывёльны страх перад дзяржавай-кантралёрам, якая імкнецца «дайсці да кожнага».

**Кадры вырашаюць усё і ўсё правальваюць**

Пераносімся ў Гродзенскую вобласць, якую 14 лістапада з рабочым візітам наведаў адзіны палітык (АП). Далей прыводжу фрагмент прэс-рэлізу, запазычаны на сайце president.gov.by: «По его словам, почти треть населения в приграничных районах нигде толком не работает и живет за счет поездок в соседние страны Европы. «Куда это годится, что мы порождаем? Поколение спекулянтов, которое плодит теневую экономику?Оттаких«предпринимателей» дельных инвестиций не дождешься», — подчеркнул глава государства».

У Гродзенскай вобласці па-за дзяржаўнай сістэмай уліку зарабляе сабе на жыццё кожны трэці. Агульная ж колькасць беларусаў, незадзейнічаных дзяржавай «на поўную катушку», па інфармацыі АП, — каля 500 тысяч.

«Кадры вырашаюць усё!» — любіў паўтараць бацька савецкай каманднa-адміністрацыйнай сістэмы. Але кадры, дадам ад сябе, здольныя і заваліць любую даручаную справу. Як тут ні пагадзіцца са старшынёй Камітэта дзяржаўнага кантролю Леанідам Анфімавым, які растлумачыў невыкананне асноўных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця ў бягучым годзе неарганізаванасцю, някемлівасцю, марнатраўствам і залішняй самаўпэўненасцю кіраўнічых кадраў.

Перад кадрамі з такім букетам характарыстык АП і паставіў задачу да 1 студзеня «прымусіць усіх працаваць». Асабіста я сумняваюся ў дзеяздольнасці кадраў. АП — не кесар Аўгуст, а сучасным губернатарам далёка да консула Цвірынія. Свой сумнеў растлумачу цытатай з Евангелля ад Лукі: «У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай».

Такі ўзровень асабістай адказнасці пры правядзенні перапісу ў нашы дні немагчымы. Звярніце ўвагу: Юзаф не чакае, калі да яго прыйдуць перапісчыкі, а адпраўляецца з цяжарнай жонкай у шматдзённае цяжкое падарожжа. Такі ў тыя часы быў парадак, і ён няўхільна выконваўся: «І пайшлі ўсе запісвацца». Слова «ўсе» ў дадзеным выпадку з'яўляецца ключавым.

**Новае — гэта добра забытае старое**

Народ па вызначэнні пазбаўлены суб'ектных характарыстык, што не перашкаджае яму высоўваць са сваіх шэрагаў лепшых прадстаўнікоў, з якіх і фармуецца ўлада. Вось як гэты працэс апісаў АП, завяршаючы 17 кастрычніка прэс-канферэнцыю журналістам расійскіх СМІ: «Все мы, дорогие мои мужики и девчонки, пришли оттуда, от того простого обычного дерьма, в котором ковыряется большая часть сегодняшнего нашего общества, которому мы не создали нормальные условия для жизни. Это надо помнить всегда».

Але акрамя ўлады і папуляцыі ў айчыннай гісторыі пастаянна прысутнічае трэці элемент — лішні чалавек. Лішні чалавек — гэта індывіды або групы, якія не «перамолатыя» ўладай і таму не сталі ні ўе органам, ні часткай папуляцыі.




Калі наша Улада (прапісная літара ў гэтым выпадку абавязковая) ёсць спосаб усёпранікальнага кантролю над жыццём папуляцыі, то лішні чалавек — гэта мера незавершанасці сістэмы, пастаянны напамін Уладзе пра тое, што яна не здольная ўстаць поруч са сваімі вялікімі папярэднікамі — Аўгустам і Квірыніем.

Улада пазбаўленая рычагоў уплыву на лішніх людзей, колькасць якіх у памежных рэгіёнах Беларусі дасягнула ўжо адной траціны. Адсюль патрабаванне АП «любыми способами, которые мы знаем и умеем делать, заставить этих людей работать!» Тэрмін — да 1 студзеня.

Творчых прапаноў з боку профільных ведамстваў доўга чакаць не давялося. У прыватнасці, у МУС прапанавалі дапоўніць Адміністрацыйны кодэкс артыкулам, у адпаведнасці з якім ухіленне паўналетняга працаздольнага грамадзяніна, які пастаянна пражывае на тэрыторыі краіны, больш за шэсць месяцаў на працягу года ад фінансавання дзяржаўных выдаткаў павінна пацягнуць санкцыі ў выглядзе адміністрацыйнага арышту.

Аўтары ноў-хаў абгрунтоўваюць радыкальнасць сваёй прапановы спасылкай на арт. 56 Канстытуцыі, якая абавязвае грамадзян прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў. Прэс-сакратар МУС К. Шалькевіч падкрэсліў, што гэта толькі адна з высунутых міністэрствам прапаноў. Але пакуль увесь спіс не абвешчаны, я дазволю сабе скарыстацца паўзай, каб нагадаць знакамітую формулу: «Новае — гэта добра забытае старое». У нашым выпадку прапануецца замена падаходнага падатку падушным.

Калі падаходны падатак выплачваецца з даходаў і ўласнасці, што і дазваляе грамадзянам працаваць «у цень», заставацца недасягальнымі для падатковай інспекцыі, то падушны падатак спаганяецца з кожнага чалавека па выніках перапісу. У Старажытным Рыме ён быў вядомы пад назвай «capitatio». У Расіі падушны падатак увёў Пётр І. Ён жа пачаў пагалоўны перапіс падданага насельніцтва.

Кола замкнулася, і мы зноў вярнуліся да праблемы, узнятай у мультфільме «Казлянё, якое лічыла да дзесяці», г.зн. да праблемы якасці сучаснай беларускай эліты. Аказваецца, бескарысліва лічыць да дзесяці (як, зрэшты, і да любой зададзенай лічбы) не так проста.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.11.2014 у 15.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.